# Мае сустрэчы з Кіравым



Апавяданне школьніцы

Дзядзю Кірава я шмат разоў сустракала і гутарыла з ім. Аб усім гутарылі. А адзін раз, памятаю, было так: я іду, і ён ідзе. Я яму кажу: „Добры дзень.“ І ён мне адказвае: „Добры дзень“. А потым пытае: „Ну, як ты вучышся, добра?“ Я адказваю: „Ні добра, ні дрэнна“. А ён мне і гаворыць: „Трэба так вучыцца, каб было добра“.

А ў другі раз я гуляла з Боркам—хлопчык, маленькі яшчэ, толькі што пачаў хадзіць,—гуляла я з ім у садзіку ля дома. Мы з Кіравым у адным доме жылі. Па адной лесніцы. Я толькі вышэй жыла. Іду я дадому, а Кіраў убачыў і гаворыць:

— Што гэта такое? З курамі ён кляваў, ці што? Трэба нос яму выцерці.

Я гляджу—і верна: у Боркі нос брудны-брудны!

А то яшчэ такі выпадак быў. Стаім мы ля ліфта і чакаем, калі нас падымуць. Дзядзенька, які падымае, і гаворыць мне:

— Чаго вы тут стаіце? Няма чаго вам чакаць.

А Кіраў як раз падышоў і пачуў:

— Што такое? Дзеці пойдуць па лесніцы, а я буду на ліфце паднімацца?

Даў нам дарогу, пасадзіў з Боркам у ліфт і падняўся з намі на самы верх. Выпусціў нас, а сам зноў спусціўся да сваёй кватэры.

Валя Жыхрына

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

Лістапад 1939 г. № 11

# НАШ КІРАЎ



Гэта было ў 1886 годзе ў сакавіку месяцы. У маленькім гарадку Уржуме ў сям'і бедняка Мірона Кострыкава нарадзіўся сын, якога назвалі Серожай.



Глухі гарадок Уржум, у якім Серожа Кострыкаў правёў сваё дзяцінства.

Бацька Серожы прабіваўся выпадковай работай, маці хадзіла к уржумскім багачам на падзёншчыну, і нават старэнькая бабулька служыла ў няньках.

Але заработак усіх быў такі малы, што не кожны дзень удоваль хапала хлеба.

Серожу было чатыры годы, калі яго бацька адправіўся на Урал у пошукі заработку. Так ён ніколі і не вярнуўся з Урала,— прапаў без весці.

Серожа і дзве яго сястрычкі засталіся на руках мацеры. Але ў хуткім часе і яна памерла. Серожу тады было ўсяго сем год.

Серожынай бабульцы пасля доўгіх клопатаў удалося ўстроіць яго ў прыют для сірот. Але Серожа Кострыкаў мала паходзіў на прыюцкіх чахлых і вартых жалю сірот. Ён выдатна вучыўся, быў моцным і прысадзістым, і калі купецкія сынкі імкнуліся зачапіць „прыюцкага", ён ніколі ў крыўду не даваўся.

Сем год Серожа пражыў у прыюце. У Уржуме было многа палітычных ссыльных. Серожа з імі падружыўся, вывучыўся іх песням, у якіх спявалася аб барацьбе за свабоду.

У поўразваленай бані Серожа змайстраваў гектограф, на якім па начах друкаваў рэволюцыйныя пракламацыі, а раніцай раскідваў іх па базарнай плошчы.

З кожным годам Серожа ўсё больш уцягваецца ў падпольную работу. Але гэта яму не перашкаджае выдатна вучыцца— спачатку ў Уржуме, потым у Казані, і, нарэшце, у Томску, дзе ён паступае на курсы па падрыхтоўцы ў тэхналагічны інстытут.

На гэтых курсах Серожа набывае сяброў. Сярод іх браты Каньковы, рабочыя-друкары. Яны разам ходзяць у падпольныя гурткі, чытаюць артыкулы Леніна.

Сергей Кострыкаў яшчэ вельмі малад, але ён усіх здзіўляе сваёю смеласцю, бальшэвіцкай стойкасцю і знаходлівасцю.

У 1905 годзе ён кіруе ў Томску забастоўкай чыгуначнікаў і ўпершыню пападае ў турму. Па выхадзе з турмы ён разам з таварышамі, па даручэнню партыі, арганізуе на ўскраіне горада падпольную друкарню. Нечакана налятае паліцыя, але нічога не знаходзіць. Усё-ж Кострыкава і яго таварышоў арыштоўваюць, але ў хуткім часе вызваляюць.

Тры годы ў доме, пад якім выкапана друкарня, жыве паліцэйскі. Але раптам печка ў яго пакоі правальваецца пад зямлю— гэта абвалілася столь друкарні. Такім чынам даведваюцца пра яе існаванне.

Сергею Кострыкаву пагражае суд, а затым пакаранне. Партыя накіроўвае Кострыкава ва Владзікаўказ. Там ён пачынае супрацоўнічаць у владзікаўказскай газеце „Терек" пад прозвішчам „Кіраў". Прозвішча ён мяняе для таго, каб уладам не так лёгка было яго знайсці.

Наступае Кастрычніцкая рэволюцыя, за ёю—годы грамадзянскай вайны. Кіраў усюды на самых адказных пастах; партыя даручае



Кіраву самыя трудныя ўчасткі работы. Таварыш Сталін высока цэніць яго, лічыць яго сваім лепшым другам.

Астрахань у кальцы белых банд. Здавалася-б, выхаду няма. Знаходзяцца такія, якія прапаноўваюць „здаць горад, узарваць чырвоны флот, каб ён не дастаўся белым". Але Кіраў пра гэта слухаць не хоча. „Пакуль у Астраханскім краі ёсць хоць адзін камуніст, вусце ракі Волгі было, ёсць і будзе совецкім",—так гаварыў у тыя цяжкія дні Кіраў, і так збылося. За вызваленне Астрахані Ленін паслаў Кіраву прывітальную тэлеграму.

На каўказскім фронце, убачыўшы з наглядальнага паста, што чырвоныя часці адступаюць, Кіраў, доўга не думаючы, садзіцца на каня і з крыкам „за мной, таварышы!" кідаецца наперад. Вакол яго свіст пуль. Конь яго забіт. Акрываўлены ён выбіраецца з-пад яго і бяжыць далей. Гледзячы на яго, байцы прыходзяць у сябе. Яны ірвуцца ўперад. Бой выйгран.

За самыя небяспечныя справы Кіраў заўсёды браўся сам. Яму не спадабаліся звесткі разведкі. Трэба праверыць. Ён садзіцца з шоферам у машыну і, захваціўшы з сабой кулямёт, едзе сам у разведку. Налятаюць на сяло, дзе былі белыя. Але тыя, не прадстаўляючы сабе такой смеласці, прымаюць іх за сваіх. Салдаты становяцца на выцяжку. Праязджаюць удачна. Але тут шофера дзёрнула адзець шапку з звяздой, прыкмецілі. Кавалерыя скача наперарэз — наўскач. Кіраў чакае да апошняга моманту. Нечакана пачынае страчыць кулямёт. Коні становяцца на дыбы. Машына праскаквае, датыкаючыся іх морд, лязг шашак па баках машыны.

Яшчэ і яшчэ можна расказваць пра Кірава. Яго жыццё складалася з адных подвігаў, кожны яго шаг быў шагам большэвіка-ленінца, не ведаўшага на шляху перашкод.

У 1925 годзе партыя, таварыш Сталін накіроўваюць Сергея Міронавіча Кірава ў Ленінград.

У Ленінградзе таварыш Кіраў вядзе бязлітасную барацьбу з ворагамі народа—трацкістамі. Ён клапоціцца аб паляпшэнні жыцця працоўных, аб дабрабыце горада, цікавіцца вучобай дзяцей, работай навуковых работнікаў.

Ворагі ненавідзелі Кірава, як ненавідзяць яны ўсіх большэвікоў, увесь народ. Яны падаслалі подлага забойцу, які 1 снежня 1934 года стрэлам у затылак абарваў слаўнае жыццё Кірава. У адказ на выстрал уся совецкая краіна паклялася адпомсціць ворагам за свайго дарагога сына, які аддаў сваё жыццё барацьбе за шчасце народа.

Сёння мінула пяць год з таго часу, як няма з намі Кірава. Але ў думках ён з намі, ён ніколі, ніколі не памрэ!



Баку—сталіца Азербайджана.




# Пажар

*Н. БЫЛЬЕЎ* *Рысункі І. КАРАЛЁВА*

Позняя ноч. Горад Баку спіць. На вуліцах пуста. У вокнах дамоў цёмна. Толькі вецер завывае ды пыл, падняўшыся віхрам, стукае ў шыбы. У адным доме гарыць святло.

Ля акна сядзіць за пісьмовым сталом шырокаплечы шэравокі чалавек. Каўнер яго гімнасцёркі расшпілены, рукавы закасаны. Пасма русых валасоў збілася на лоб.

Ён схіліўся над аркушам паперы, хутка піша і ўсміхаецца.

Гэта Кіраў. Ён піша пісьмо Сталіну.

Пісьмо добрае, радаснае. Пра тое, як дружна бакінскія рабочыя здабываюць нафту для маладой савецкай краіны. Пра тое, што ўжо поўныя нафтавыя амбары.

Пра тое, што даўгія паязды кожны дзень вязуць нафту на заводы ў Маскву, у Ленінград. А пад зямлёй запасы нафты— велізарныя.

Кіраў адкінуўся на крэсле, заклаў рукі за галаву, задумаўся.

Далёка ля возера відаць промыслы. Чарнеюць вежы—нафтавыя вышкі,—нібы застылі полчышчы веліканаў.

І раптам там высока ўзняўся слуп полымя. Густы, чырвоны ад агню дым паваліў у неба.

Пажар...

Мабыць,—гэта падпал. Які-небудзь злачынец рашыў зніштожыць здабытую нафту.

Імгненна Кіраў накінуў дажджавік, нахлабучыў шапку, выбег з дому.

Праз мінуту над сонным горадам ужо вылі сірэны.

Працягла застагналі гудкі.

Начныя вартаўнікі адчайна білі ў набат.

Трывога. Нафта гарыць...

Разбуджаны народ ускакваў з пасцеляў. Па вуліцах з усіх бакоў на пажар беглі рабочыя—выратоўваць свае промыслы. Многія адзяваліся на бягу.

Высачэзнае полымя ўжо ахапіла драўляныя вышкі.

Гудзіць. Бушуе...

Языкі агню прыгінаюцца па ветру, захватваюць усё больш здабычы. Аглушальна трашчаць палаючыя бярвенні, нібы стральба ідзе. Галавешкі, цэлыя кавалкі палаючых дошак са свістам узлятаюць уверх. Вецер злосна іх кідае на дахі, на другія вышкі— далёка па баках.

Гарачыня такая—не падыйсці.

Рабочыя спыніліся натоўпам, не ведаючы, што рабіць.

— Таварышы, чаго спыніліся?—пачуўся голас.

— Падыйдзі—сунься...

— Ты што-ж—агонь рукамі будзеш гасіць? Пажарных машын—раз, два і ўсё... І шлангаў няма.

Але тут да натоўпу падышоў каранасты чалавек у дажджавіку.

Ён крыкнуў так, што ўсе пачулі:

— Лапаты сюды! Ламы, сякеры! Агонь будзем зямлёй засыпаць. Ламайце ўсе вышкі вакол. Дружней, таварышы!

Сотні рабочых адразу-ж кінуліся ламаць вышкі. Рубілі іх, прывязвалі да іх вяроўкі, раскачвалі, валілі іх.

На пажары ўсюды бачылі няўтомнага чалавека ў дажджавіку.

Ён разам з усімі рубіў і валіў вышкі і зямлю капаў, цягаў яе на насілках і засыпаў палаючыя бярвенні.

— Хто гэта?—пыталіся людзі адзін другога.

А прыглядзеўшыся—пазнавалі:

— Ды гэта-ж галоўны бакінскі наш бальшэвік—сам таварыш Кіраў.

І хто стаміўся, змарыўся, той, гледзячы на Кірава, зноў горача браўся за работу.

Ноч, дзень, другую ноч змучаныя людзі змагаліся з агнём. Урэшце агонь пачаў здавацца, адступаць.

Ужо ўдалося збіць вялікае полымя. Ужо менш злых іскраў няслося па ветру. Пажар пакрыху сціхаў.

Заставалася яшчэ адно вельмі небяспечнае месца,—каля велізарнага бака, поўнага нафты, палалі сараі.

Кіраў разам з рабочымі і пажарнымі працаваў ля самага бака.

Раптам глуха бухнула.

— Ратуйся!—пачуўся крык.—Бак разарвала!



Кіраў ледзь паспеў адскочыць.

Чорнай хваляй з бака хлынула нафта, на момант затапіла палаўшыя бярвенні. Сама ўспыхнула і, усё запальваючы, разлілася струменем па нізіне да самага возера.

І на возеры заскакалі язычкі агню—нібы запалілася вада. Гэта палала нафта, што расплылася па вадзе.

Вецер пагнаў яе да другога берагу.

А там стаялі яшчэ вышкі, былі нафтавыя амбары—велізарныя ямы, поўныя нафты.

Пачуліся галасы над берагам:

— Усё прапала. Цяпер загарацца ўсе промыслы.

Тут зноў усе ўбачылі Кірава.

З вялікай дошкай у руках ён бег да возера.

Убег у ваду па пояс і з усіх сіл пачаў грэсці дошкай—адганяць прэч наплываўшы агонь.

Едкі дым засцілаў яму вочы, агнём прыпякала твар.

Вопратка на ім раптам загарэлася.

Ён хутка акунуўся з галавой у ваду і прадаўжаў працаваць.

Цяпер усе зразумелі, што трэба рабіць.

Дзесяткі і сотні людзей з дошкамі, з лапатамі, з жалезнымі лістамі імгненна кінуліся за ім у возера дружна адграбаць нафту.

На возеры паднялі такую хвалю, што палаўшая нафта паплыла ў бок.

Да другога берагу агонь так і не падпусцілі.

Промыслы былі выратаваны.

Толькі на трэці дзень вярнуўся Кіраў дамоў.

Ён скінуў з сябе абгарэўшую мокрую вопратку.

Прайшоў у кабінет.

На стале ляжала яго недапісанае пісьмо Сталіну.

Кіраў прысеў да стала і прыпісаў яшчэ некалькі радкоў: аб тым, што на промыслах здарыўся вялікі пажар, што гераічныя рабочыя дружнымі намаганнямі пажар затушылі. Галоўныя запасы нафты выратавалі.

Ні адным словам Кіраў не ўспамянуў аб сабе.

Ён падпісаўся і заклеіў пісьмо ў канверт.



МАКСІМ ТАНК

# КАЗКА пра Мядзведзя

Рысункі К. ГЕДДА

Пад шэрую восень, пад верасень месяц,
задумаў жаніцца Мядзведзь у цёмным лесе.
І кажа сватом:—Мне шукайце пасагу;
зіму зімаваць—трэба мёду і брагі.
А у мяне ні каня, ні гароду;
падушка—і тая з альховай калоды.
За лета снапа мне нажаць не прышлося,—
то пчол даглядаў, то гнуў дугі, палоззе.
Няхай сабе будзе няважная жонка,—
каб толькі я выжыў зіму пад сасонкай...
Хадзілі сваты ад Мядзведзя па лесе—
ўсё дзеўкі шукалі праз верасень месяц.
Хадзілі яны ў Белавеж да Зубрышкі,
да Зайцавых дзевак, былі і ў Казлішкі.
Там ветліва важных гасцей прынімалі,
крынічнай вадой, мурагом частавалі;
стараліся ўсе ім у пояс хіліцца:
сваты былі важныя—Воўк ды Лісіца!
Калі што не так, дык патрапілі-б самі
пагладзіць, дзе трэба, памацаць зубамі...



Эх! важныя дзеўкі былі-б гаспадыні,
каб мелі каўбасаў, курэй, саланіны.
Нашто і шукаць-бы што недзе другое,—
было-б для Мядзведзя жыццё залатое.
А то ў Зайчышкі пасаг—руні жыта,
зімой—зледзянелая ў полі ракіта!
Ў Казлішкі—зялёны дзядзеўнік ў імшарах,
падушкі з дзеразы, асоту гушчары.
А ў Зубрышкі па ўсёй Белавежы
не злічыш стагоў непачатых і свежых...
Ды што з іх сватом і Мядзведзю сівому,—
язык намазоліш, нагоніш аскому.
Пачулі сваты—ёсць над Нараччу дзеўка:
у лесе сасновым паджарая Белка.
Такая вясёлая, з песнямі, смехам,—
збірае з ляшчэўніку толькі арэхі.
Насыпала поўныя куфры, як лёду;
раскусіш—як сонца, зярняты—як з мёду.
Сказалі Мядзведзю:—Ёсць дзеўка з пасагам!..
Прыбраўся Кудлаты у боты, сярмягу;
кашулю уздзеў, што злупіў у Міколы,
як той бараніў ад яго калісь пчолы;
ўзяў пояс ліповы і кій сукаваты,—
так выбраўся з світай Мядзведзь наш у сваты...
Такое вяселле магло толькі хіба
быць там, дзе ёсць Нарач, бор цёмны ды рыба.
У цымбалы ігралі шаршні і асвянкі,
ігралі дзень цэлы, да самай заранкі;
а ў цёмным ягодніку з цецярукамі
ў тахт дзятлы ў бубны лупілі насамі,
і з вёскі далёкай, дзе жытнія гоні,
пятух памагаў на чырвонай гармоні.
Лявоніху ёмка скакала Лісіца,—
як ветрам, як жоўтым, шумела спадніца.
Аж вышаў Мядзведзь, топнуў левай ды правай
пайшоў прысядаць—замігцелі рукавы.
Скакаць-бы ён мог так дзён пяць ці мо' дзесяць—
адно толькі боты стапталіся ў лесе;
ды на'т і ў мяне знасіліся лапці...
На трэцюю ноч пачалі раз'язджацца.
Памалу прайшоў ціхі верасень месяц.
Ляжыць, пажывае Мядзведзь ў цёмным лесе,
ў гушчарах, дзе глуш ды сасновае рэха,
а Белачка носіць ваду ды арэхі.
Насыпе Мядзведзь іх у ступу, як лёду,
а зверху як бухне дубовай калодай!..
Наесца ды спіць ў лагаўі, у палацы,—
на'т слухаць не хоча, хто кажа аб працы.
Пражыў генералам нямала так часу,
пакуль не хапіла у Белкі прыпасаў.
Ляжыць і раве ён, ледзь бор не аглохне:
—Ой, мусіць я хутка памру або здохну...





Лячыла Мядзведзя Варона-Шаптуха
і Дзяцел стучаў яму трубкай у вуха,
і банькі на пяты стаўляла Сарока,
кампрэсы яму прыкладалі пад бокам...
Ды што не рабілі—ўсё не памагала.
Шмат вылізаў лекаў—гусіны і сала...
Ды што тыя лекі, калі наш Кудлаты
з'еў двух дахтароў з Белавежы лычатых.
Хадзіў тады блізка Цыган хітры недзе.
Пачуў пра цяжкую хваробу Мядзведзя,
і кажа:—Ты, бацю, не слухай нікога;—
Цыган табе зелля парадзіць другога:
Відаць, ты не можаш ні сесці, ні легчы,
не можаш ты мала, мой баценька, есці!..
Дзе ў лесе дарога, а з боку паляна,—
лячыў Цыган брагай-сівухай да рана;
яшчэ паіў зеллем салодкім, як мёдам:
спаіўшы, Мядзведзя прыкуў да калоды,
а после усыпаў бярозавай кашы,
павёў яго цешыць людзей па кірмашах.
Перш доўга Мядзведзь касюрыўся ды вохаў,
а после зрабіўся такім скамарохам.
Дзе толькі не пройдзе пад хаты крывыя—
злятаюцца дзеці, дзяўчаты, старыя,
прыносяць салодкага мёду, арэхаў,—
а ён давядзе аж да слёз і да смеху.
Смяюцца і дзеці, і куры, і коні,
як ён у шарахаўкі звонкія звоніць;
смяюцца асверы і стрэхі, і хаты,
як пойдзе скакаць пад цымбалы Кудлаты.
Здаецца няпраўда, што людзі гавораць,
што быў ён жанатым, што быў калісь хворым...
А Белачка там, дзе ёсць пушча густая,
ў сасновыя куфры арэхі збірае,
і добра хавае, каб часам мядзведзі,
каб іх не знайшлі на'т вясковыя дзеці.
І чорнымі зорка пільнуе вачыма,
і лускае іх у сцюдзёныя зімы.
А там—за сасновым за лесам, за борам,
ах, золатам сінім іграюць азёры.
А глянеш навокал—такая краіна:
дзе ступіш—то рэха, то казка, быліна...
Ёсць, праўда, і сумных нямала, без ліку,
але мы іх лепей пакінем вялікім...
А вам, мае дзеці, з вачыма, як золак,
аддам усе дзівы тых казак вясёлых.

4. VIII. 1937







# Пастушок Ігнатка

Апавяданне А. ЯКІМОВІЧА

Рысункі К. ГЕДДА

I

Раніцай пастушок Ігнатка пагнаў у поле сваю Красулю. Спачатку ён пасвіў яе на палявой дарозе. Травы на дарозе было мала, і пастушок сюд-тут забягаў на межы, ірваў траву і прыносіў Красулі.

Ігнатка вельмі шкадаваў сваю Красулю. Яна адна асталася ў гаспадарцы. Каня ўжо два гады таму секвестратар забраў за падаткі. Ён хацеў тады забраць Красулю, але Ігнатка пачаў так плакаць і прасіцца, што бацька згадзіўся аддаць лепш каня. Затое Красулю цяпер запрагалі ў воз і ў саху. Ігнатку заўсёды балюча было глядзець на запрэжаную Красулю. Здаецца, лепш сам-бы цягнуў, каб сіла была.

Ужо на захадзе сонца пастушок падагнаўся да панскіх паплавоў. Сялянскія палоскі ўпіраліся проста ў паплавы пана Халецкага. На панскія паплавы нельга было ступіць і нагой. І сяляне за кошт сваіх палосак пусцілі ў канцы поля шырокую мяжу, каб было дзе завярнуцца з канём. Гэтая шырокая мяжа так і называлася Канцамі. Пасля пакошы на Канцах весела зелянела маладая атаўка. Ігнатка і завярнуў сюды Красулю. Карова спакойна скубла атаву, а пастушок парашыў крыху адпачыць. Перад ноччу паветра паярчэла. Хлопчык прылёг на ўзмежку, захінуўся шарачковым халацікам і наглядаў за каровай. Карова далёка не адыходзілася. Увечары трава мякчэе. Скаціна ў такі час ахватней пасецца.

З часам Ігнатка пачаў заўважаць, што Красуля чамусьці расце ў яго вачах. „Хаця-б не заснуць“, думае ён. Трэба ўставаць, а ўставаць так не хочацца. Цела сагрэлася, разамлела, думкі затуманіліся салодкай дрымотай. Пастушок сіліцца глядзець на карову, а яна ўсё расце, пухне, потым становіцца цэлай гарой, і ўжо не відаць ні хваста, ні ног, ні галавы...

Ігнатка прачнуўся, хапаючыся за плячо. Яно вельмі-ж балела. Пастушок расплюшчвае вочы і бачыць перад сабою аднавокага панскага гайдука з нагайкаю ў руцэ. (Другое вока яму выбілі парабкі за лішнюю дасціпнасць). Крыху далей на прыгожым каштанавым жарабцы сядзіць сам пан Халецкі, трымаючы за повад яшчэ аднаго асядланага каня.

— Забраць!—чуе Ігнатка знаёмы панскі голас.

Пастушок аглянуўся: Красуля яго пасвілася за Канцамі... на панскім поплаве. Толькі цяпер ён зразумеў, што здарылася.

Ігнатка ўсхапіўся, падбег да пана і, заліваючыся пякучымі слязмі, паваліўся перад канём.

— Паночак, даруй, я незнарок заснуў...

Ігнатка бачыў не раз, як дарослыя валяліся перад панам, просячы ў яго літасці. Ён

таксама ведаў, што пан люты і нікога не мілуе, але гэта была нейкая цмяная надзея на ратунак.

— Прэч, быдлянё!—з агідай адвярнуўся ад яго пан Халецкі..

— Паночак, у нас бацьку на вайну забралі... І каня за падаткі забралі...

Гайдук тымчасам злавіў Красулю, накінуў на рогі папругу і вёў да пана. Карове не хацелася пакідаць смачную атаву. Яна круціла рагамі, упіралася. Гайдук раз-по-раз хвастаў яе нагайкай, кожны ўдар якой балюча калоў Ігнаткава сэрца.

— Каты!—не стрываў Ігнатка, кінуўся да каровы, загарадзіў ёй дарогу.—Не дам каровы!

Гайдук збянтэжана спыніўся, недарэчна лыпаючы адным сваім вокам. Ён не чакаў такой адвагі і рашучасці ад гэтага худога, бледна-сіняга хлапчука ў лахмоццях.

— Чаго няньчышся з ім!—крыкнуў пан да гайдука.—Нагайкі няма ў цябе?!

Сцяўшы зубы, каб паказаць пану шчырую службу,—гайдук высока ўзмахнуў нагайкай. Цяжкая нагайка з ушытым на канцы волавам аперазала худыя Ігнаткавы плечыкі, якія тырчэлі з-пад парванай шарачковай світкі. Ігнатка не адступіўся ад Красулі.

— Яшчэ!—камандаваў пан, пазелянеўшы ад злосці і нецярпліва размахваючы нагайкай.

Гайдук ударыў яшчэ. Ігнатка толькі ніжэй прыгнуў плечы. Пан Халецкі аж заёрзаў на сядле, нібы гэта ўдарылі не Ігнатку, а яго самога. Ён прышпорыў жарабца, наехаў на пастушка і сам ударыў яго па галаве. Ігнатка ўжо не вытрымаў гэтага ўдара, асунуўся на зямлю, выпускаючы з цэпкіх худых рук сваю дарагую Красулю.

Гайдук тузануў карову ўбок, абвёў яе каля Ігнаткі, ды з лаянкай пацягнуў услед за панам.

Прыбіты пастушок астаўся ляжаць на траве.

На зямлю апускаўся халодны вячэрні туман. Ён закрываў сабою кусты, белай плёнкай слаўся па атаве, клубкамі каціўся да поля.

II

З таго часу мінула некалькі дзён, самых цяжкіх і нудных у жыцці Ігнаткі і ў жыцці ўсяе сям'і.

Ігнатка вярнуўся тады дамоў позна ўначы. Ён доўга ляжаў на роснай траве, потым сяк-так акрыяў, падняўся ды пайшоў памалу дадому. Прышоў на прыгуменне, сеў пад страхою, і так сядзеў, пакуль не знайшла яго ўстрывожаная маці.

І вось ужо каторы дзень Ігнатка не знаходзіць сабе нідзе месца. Красулькі няма, і няма яму прыпынку. Маці хадзіла да пана, упрашвала, кленчыла, але пан загарадзіў дзесяць злотых за патраву. Дзе ім узяць такія грошы? Бацька не пакінуў ім ніводнага злотага.



Ігнатка ўсе дні думае, як выратаваць Красулю з панскага палону. Сёння зайшоў да іх сусед, дзед Сымон. Ён, як ніколі, быў жвавы і вясёлы. Шэптам ён сказаў матцы,—але гэта чуў і Ігнатка,—што хутка іх гору прыдзе канец: кажуць, сюды ідзе Чырвоная Армія. Дзед чуў такую навіну ад людзей. Ігнатка ледзь не падскочыў ад радасці.

— Гэта праўда, дзядуля?

— Кажуць людзі. Толькі—ша, маўчы, чакай...

— І яны вернуць нам Красулю?—пытаўся Ігнатка.

— Не толькі Красулю, унучак, волю адабраную вернуць!

Пасля такой навіны Ігнатка надумаўся неадкладна ісці ў маёнтак. Ён будзе там чакаць Чырвоную Армію, і як толькі яна прыдзе,—адбярэ ў пана сваю Красулю.

Ісці было недалёка, спачатку перайсці поле, там панскія паплавы, лес, за лесам і маёнтак.

Выходзячы з лесу, Ігнатка заўважыў чалавека, які бег з поля. Хлопчык спыніўся, каб разгледзець, хто там такі, але чалавек у гэты час забег у гушчар. Ігнатку ўзяла цікавасць. Цішком ён падышоў бліжэй і заўважыў, як чалавек выглянуў з-за дрэва. Ігнатка атарапеў: чалавек быў выліты пан Халецкі... Сустрэча з панам, вядома, нічога добрага не абяцала. І пастушок пабег ад бяды.

Толькі ўжо на полі Ігнатку прышла думка, што прыгода з панам была нейкая незвычайная. Чаго-ж бы ён бег у лес, а не ехаў на кані? Ды і ўсё паказвала на тое, што пан Халецкі не лавіў каго ў лесе, а нібы сам хаваўся.

Усё гэта стала ясным, калі Ігнатка ўбачыў панскі маёнтак акружаны народам. Між народа відаць былі ваенныя на конях.

— Ды гэта-ж чырвоныя!—сам сабе закрычаў Ігнатка.—Пан уцякае ад чырвоных. Хутчэй туды, сказаць трэба пра пана!

Не памятаючы сябе ад радасці, Ігнатка з усіх сіл кінуўся бегчы да маёнтка. Ён бег, спатыкаўся, падаў, зноў усхопліваўся, крычаў махаючы рукамі, пакуль не заўважылі яго з грамады ваенныя на конях. Адзін з кавалерыстаў галопам паімчаўся насустрач хлопчыку.

— Таварыш!—задыхаючыся сказаў Ігнатка.—Там пан у лесе, лавіце яго!

Ігнатка ледзь не ўпаў на зямлю ад стомленасці і ўсхваляванасці, але коннік, прыгнуўшыся з сядла, падхапіў яго за плячо.

— Садзіся, хлопча, паказвай, дзе пан,— проста сказаў ён.

У Ігнаткі знікла ўсякая стома. Ён падскокнуў, ухапіўся за кавалерыста і ўмомант апынуўся ў яго на сядле.

Каля лесу кавалерыст прывязаў каня, а сам услед за Ігнаткам пабег у гушчар.

Пана злавілі хутка. Са страху і непрывычкі ён не мог далёка адбегчыся. Ды і не было куды пану ўцякаць: за лесам пачыналася сялянскае поле, а там усім пан добра даўся ў знакі...

— Папаўся, гад печаны!—лікаваў Ігнатка, скачучы ад радасці вакол пана, які сярдзіта чмыхаў і нешта мармытаў на пастушка.— Цяпер ты нам вернеш карову, га?



Пан гнеўна варочаў зрэнкамі вачэй. Лютую злосць і смяротэльны страх выражаў яго твар.

— Якую, малы, карову?—запытаўся чырвонаармеец, вядучы пана з лесу.

— Ён,—Ігнатка ткнуў пальцам у пана,— забраў нашу Красулю, а мяне з гайдуком ледзь не забілі нагайкамі.

— Што-ж,—стараючыся быць спакойным, сказаў чырвонаармеец да пана,—карову прыдзецца вярнуць маламу, а за пабоі прыдзецца адказваць вам...—Чырвонаармеец змоўк, думаючы над тым, як назваць гэтага чалавека.

Каля поля чырвонаармейца ўжо чакалі таварышы.

— Глядзіце, пана ўпаляваў!—весела жартавалі яны.

— А гэта хто—загоншчык твой?--паказвалі яны на Ігнатку.

— Па-нашаму гэта—герой,—адказаў чыр-

вонаармеец таварышам.—Як-жа цябе зваць, малы?

— Ігнаткам,—адказаў хлопчык, з цікавасцю разглядаючы маладых дзядзей, якія прышлі сюды да іх, каб прагнаць з іхнай зямлі такіх вось крывапіўцаў, як пан Халецкі, і вярнуць ім волю.

Чырвонаармеец дастаў з кішэні аловак, блакнот і запісаў хлопчыкава імя. Потым дарогаю ён распытаўся, адкуль Ігнатка, колькі яму год, як ён жыве, дзе яго бацька. Ігнатка расказаў усё як мае быць.

У маёнтку чырвонаармейцы здалі пана пад нагляд парабкоў з чырвонымі істужкамі на рукавах, а самі сабраліся ехаць далей. Першы коннік крыху затрымаўся каля Ігнаткі. Яму вельмі спадабаўся гэты хлопчык і не хацелася так хутка пакідаць яго. Хацелася нешта такое зрабіць для яго ці хоць сказаць яму прыемнае ласкавае слова. На развітанні ён прытуліў да сябе Ігнатку, усміхаючыся пастукаў яму пальцам па кірпатым носіку.

— Маладзец, Ігнатка! Будзем варочацца назад,—заеду да вас у госці. А к таму часу і бацька твой вернецца. Вайне ўжо канец.

— А я ведаю пра вас: вы—з Совецкай краіны, дзе жыве Сталін,—пахваліўся Ігнатка.—Можа ў вас ёсць яго партрэт?

Чырвонаармеец быў расчулен. Хлопчык пачынаў падабацца яму ўсё больш. Перад ім быў сапраўдны малодшы брат, якога ён толькі што вызваліў. І тое, што гэты малы худзенькі хлопчык ведае імя дарагое кожнаму з іх і хоча цяпер бачыць партрэт гэтага чалавека, зрабіла на чырвонаармейца асаблівае ўражанне. Яму здалося, што на расніцы яго качаецца слязінка. Ён махнуў рукой па расніцы і сказаў:

— Ёсць, браток, ёсць!

Чырвонаармеец дастаў з кішэні газету, разгарнуў яе і падаў хлопчыку. Са старонкі газеты Ігнатку ласкава ўсміхаўся чалавек з трубкай у зубах. Ігнатку здалося, што гэтага чалавека ён недзе ўжо бачыў, бо ён усміхаецца яму так, як добра знаёмы, або як родны бацька.

— Гэта—ён?—глянуў Ігнатка на чырвонаармейца.

— Ён, Ігнатка.

Хлопчык доўга ўглядаўся на партрэт.

— Я пабягу дамоў, усім пакажу,—нарэшце жвава заварушыўся Ігнатка.

— А ты, Ігнатка, лепш заадно і Красулю сваю забяры,—параіў чырвонаармеец.

Ігнатка згадзіўся з парадай.

Хутка, вясёлы і радасны, пастушок Ігнатка гнаў дамоў сваю Красулю. У руках ён нёс газету з партрэтам чалавека, якога ён даўно ведае, але партрэт якога ўбачыў сёння першы раз у жыцці.





# Цудоўная дудка

В. ВОЛЬСКІ

Рысункі М. КАРПЕНКО

*П'еса-казка „Цудоўная дудка", напісаная драматургам В. Вольскім, апавядае пра разумнага вясковага хлапчука Янку, які здолеў, дзякуючы сваёй кемлівасці і знаходлівасці, перамагчы паноў. Пакінуўшы родную вёску для таго, каб вызваліць бацькоў з-пад улады злоснага пана, Янка ідзе ў каралеўскі палац шукаць праўду і справядлівасць. Кароль пасылае Янку супроць велікана, які разбурае краіну. Дзякуючы свайму розуму і адвазе Янка перамагае велікана і здабывае цудоўную дудку. Пад гэту дудку ён прымушае скакаць караля з яго дваром і вызваляе сваіх бацькоў з-пад улады злоснага пана. П'еса карыстаецца вялікім поспехам у пастаноўцы Беларускага Дзяржаўнага Тэатра Юнага Гледача імя Крупскай (рэжысер—засл. арт. БССР Е. Міровіч).*

*Мы друкуем урывак з п'есы—карціну „Сустрэча з веліканам".*

---

Вечар. Прыгожая мясцовасць. Лес. Узгоркі.

Янка *(з торбай на спіне, ідзе і спявае, спыніўся)*. Стаміўся нешта. Відаць ужо час адпачыць. Дый есці захацелася. *(Аглядаецца.)* Якая прыгожая мясцовасць... Тут я і спынюся. Навокал нікога няма. Людзей не чуваць і не відаць. Мабыць, паўцякалі, небаракі. Велікан, мусіць, недалёка. Хутка спаткаемся. *(Уздыхае.)* Але я не баюся. Што ён мне зробіць? Ён хоць і вялікі, але затое, мабыць, і дурны. *(Скідае торбу, садзіцца ля куста.)* Трэба пакуль што павячэраць. *(Развязвае торбу, вымае сыр і хлеб. У гэты час за сцэнай чуваць павольны, размераны, але вельмі моцны тупат велізарных крокаў.)*

Янка. Гэта, мабыць, велікан. *(Кладзе сыр і хлеб каля сябе на торбу. Прыслухоўваецца).*

(За сцэнай нізкі голас спявае.)

Велікан *(за сцэнай)*.

Волат я вялізны,—
Пагроза для людзей,
Бо як дам па шапцы,
Не знойдзеш ты касцей.

Іду па ўсіх краінах
Я шпаркаю хадой.
Мабыць, я заўладаю
Усёй куляю зямной.

(З гэтымі словамі на сцэну выходзіць велікан, апрануты ў звярыную шкуру, валасаты, барадаты. Ногі абкручаны кавалкам звярынай шкуры, прывязанымі да нагі рамнямі. Шырокі скураны пояс. У руках вялікая доўбня. Велікан нюхае паветра, з шумам уцягваючы яго ў ноздры. Ад подыху яго варушацца лісты на дрэвах, клоняцца долу трава, развяваюцца валасы на галаве Янкі).

Велікан. Чым гэта тут пахне?

Янка *(смела глядзіць на яго)*. Добры вечар, дзядзька! Як маешся?

Велікан *(пахмурна глядзіць на яго зверху ўніз)*. Што гэта тут за казюрка няшчасная? Хто гэта тут звініць, як камар над вухам?

Янка. Я кажу: добры вечар, дзядзька! Хіба ты мяне не пазнаў? Куды гэта ты спяшаешся? Сядай, пагутарым.

Велікан *(здзіўлена)*. Гэткая мурашка, казюрка нікчэмная і асмельваецца раптам са мной гаварыць і нават не ўцякае? Гм... гм... А ці ведаеш ты, слімак, што я адным махам магу разбурыць цэлы горад? Ці ведаеш ты, камар, што я магу забіць цябе адным пальцам? Што ад цябе нават мокрай плямкі не застанецца?

Янка. Эге, дзядзька, але-ж ты вялікі хвалько, як я бачу. Я-ж таксама маю сілы не мала, але вось хваліцца дарма не люблю.

Велікан (*у бок, здзіўлена*). Можа ён і сапраўды вельмі дужы, калі не баіцца мяне?

Янка. Сядай вось тут, дзядзька, пагутарым.

Велікан (*садзіцца, недаверліва прыглядаецца да Янкі. Убачыў каля сябе камень*). Гэй, ты, жабка, глядзі на маю сілу. Вось я бяру камень і рукамі разрываю яго на дзве паловы. (*Бярэ камень, рукамі разрывае яго на дзве паловы і кідае за спіну.*) Бачыў? Ці ты можаш гэтак, слімак? Ці ў цябе хопіць на гэта сілы? Калі не, дык я цябе заб'ю.

Янка. Вось дык здзівіў. Глядзі... Вось я таксама бяру камень і разрываю яго на дзве паловы. (*Бярэ хлеб і разрывае на дзве паловы, кладзе іх за спіну*). Бачыў? А гэты камень я сцісну так, што з яго вада пальецца. (*Бярэ сыр і выціскае з яго ваду.*) Дый раскрышу на дробныя кавалкі. (*Расціскае сыр на кавалкі і кладзе за спіну.*) Бачыў маю сілу? (*Убок.*) Загінула мая вячэра...

Велікан (*праз меру здзіўлёны, пачынае з павагай, але ўсё яшчэ недаверліва глядзець на Янку*). (*Убок.*) Мабыць, ён сапраўды асілак. (*Да Янкі.*) Слухай, мурашка, калі ты, сапраўды, такі дужы, дык давай паспрачаемся інакш.

Янка. Давай. А толькі як?

Велікан. Хто з нас крыкне мацней.

Янка. Ты мабыць звар'яцеў... Навошта нам крычаць?

Велікан (*узрадавана*). Ага! Ты не хочаш! Ты баішся! Цяпер я цябе заб'ю.

Янка. Пачакай, дурань. Я цябе шкадаваў, бо калі я крыкну на ўвесь голас—табе не паздаровіцца.

Велікан. Дзе ты можаш! У цябе голас слабы, танклявы, звініць, як у камара. Ты баішся...

Янка. Ну, калі ты такі ўпарты, дык я згодзен. Табе-ж будзе горш. Сам будзеш потым шкадаваць. Паглядзім, хто з нас крыкне мацней.

Велікан. Калі ты крыкнеш мацней, дык ты мяне заб'еш.

Янка. Згодзен.

Велікан. А калі я крыкну мацней, дык я цябе заб'ю.

(Глядзіць на Янку.)

Янка. Таксама згодзен.

Велікан. Я буду крычаць першы.

Янка. Крычы.

Велікан (*у бок*). Зараз гэты камар скане ад майго крыку. (*Устае і задзірае галаву ўвёрх, набіраючы паветра ў грудзі.*)

Янка (*заткнуў сабе вушы мохам, абкруціў галаву торбай і засунуў галаву ў кусты. Жудасны крык велікана, моцны нібы раскаты грома. З дрэў валяцца шышкі і лісты*).

Велікан (*раве з апошніх сіл*). Ого-го-го-го-го... (*Потым аглядаецца.*) Дзе-ж ён, гэты малы? Напэўна, здох! Не вытрымаў майго крыку. Гэй, казюлька, дзе ты?

Янка (*скінуў торбу з галавы*). Ты ўжо крычаў? (*Працірае вочы.*) А я і не заўважыў. Задрамаў тым часам крыху, дык і не дачуў.

Велікан (*здзіўлена*). Няўжо не дачуў? (*Убок.*) Мабыць, ён сапраўдны асілак, калі не чуў такога крыку.

Янка. Цяпер чарга мая! Але мне шкада цябе, дзядзька, бо ты старэйшы за мяне. Мой голас можа табе пашкодзіць. Ты яго не вытрымаеш, на нагах не ўстаіш. Садзіся лепш на зямлю, ды акруці галаву чым-небудзь (*дае велікану торбу*), бо інакш загінеш дарэмна. Галава можа лопнуць, аглохнуць можаш, аслепнуць.

Велікан (*спалохана*). Няўжо?!. (*Садзіцца на зямлю, набівае вушы мохам і абкручвае галаву торбай.*)

Янка. Можна пачынаць?



Велікан (*моўчкіківае галавой*).

Янка. Дык тады трымайся! Я пачынаю зараз крычаць. (*З вялікай цяжкасцю падымае доўбню велікана, б'е яго па галаве некалькі разоў.*) Чуеш? Чуеш?

Велікан (*стогне*). О-о-ох... О-ох... Даволі, даволі, не крычы! Не трэба! (*Скідае торбу, схапіўся за галаву.*) Ну і голас, ледзь галава не лопнула...

Янка. Вось як трэба крычаць. Можа крыкнуць яшчэ разок?

Велікан (*спалохана*). Не, не... хопіць... не трэба... даволі...

Янка. А што калі я зноў закрычу?

Велікан (*становіцца на калені*). Злітуйся... пашкадуй... усё, што хочаш зраблю, толькі не крычы... толькі не забівай. (*Пачынае плакаць.*)

Янка. Дык будзем біцца, ці мірыцца?

Велікан (*скрозь плач*). Мі-ры-цца...

Янка. Ну, што з табой рабіць? Мог-бы я цябе забіць па праву, бо ты-ж гэтак умовіўся. Але шкада мне цябе, дзядзька. Жыві сабе на здароўе, але толькі з адной умовай: пакінь нашу краіну, ідзі сабе дамоў і ніколі не крыўдзі народ. Інакш будзе табе кепска. Чуеш?

Велікан (*узрадавана*). Ніколі не буду крыўдзіць народ. Дзякую табе, вялікі асілак, што пашкадаваў мяне. Ніколі я гэта не забуду... Заўсёды буду табе служыць...

Янка. Ну, глядзі... (*Заўважыў за поя-*

*гам у велікана дудку.)* Гэта што ў цябе?

Велікан. Гэта? Дудка

Янка. Адкуль яна у цябе? Дай пагля-дзець.

Велікан *(вымае з-за пояса дудку і дае Янку)*. Гэту цудоўную дудку зрабіў адзін вялікі майстар. Калі хто іграе на гэтай дудцы, дык усе людзі, усе звяры, усе жывыя стварэнні збягаюцца на яе гукі і слухаюць, як зачараваныя. А калі сказаць пры гэтым: „А ну, патанцуйце", дык усе пачынаюць скакаць і ніякая сіла не можа іх супыніць, пакуль дудка іграе. Кожны будзе скакаць пад тваю дудку. Я забраў гэтую дудку, калі разбурыў адзін горад, але, на жаль, не магу ёю карыстацца, бо не ўмею іграць, дый занадта малая яна для мяне.

Янка. А мне яна можа спатрэбіцца. Паспрабуем. *(Пачынае іграць на дудцы.)* А ну, патанцуй.

Велікан (*пачынае танцаваць нязграбна і павольна, потым усё хутчэй*). Адпусці мяне, хлопча... Даволі... Я не магу скакаць...

Янка *(спыняе ігру)*. Паскакаў і досыць. *(Смяецца.)* Добрая дудка. Цудоўная дудка. Колькі марыў я аб гэтай дудцы і вось, нарэшце, трапіла яна мне ў рукі. Дзякую, дзядзька, за падарунак. *(Смяецца.)* Ён мне спатрэбіцца. А ты ідзі сабе, адкуль прышоў, ды памятай добра: ніколі не крыўдзі народ.

Велікан. А божа-ж мой! Ды ніколі ў жыцці!

Янка. Ну, глядзі... бо інакш кепска табе будзе... Тады ўжо не пашкадую...

Велікан *(кланяецца, прыціскаючы вялізныя рукі да грудзей і выходзіць)*.

Янка *(глядзіць яму ўслед, потым садзіцца і пачынае павольна іграць на дудцы. Вакол яго паступова збіраюцца з усіх бакоў звяры лясныя—мядзведзі, зайцы і інш. і моўчкі слухаюць)*. Эге, ды ў мяне шмат слухачоў набралося. А ну, патанцуйце, звярушкі дарагія.

(Звяры пачынаюць танцаваць. Балет. Янка выходзіць, іграючы на дудцы. Зверы, танцуючы, выходзяць за ім).

*ЗАСЛОНА.*







# НАШ КАЛЯНДАР

## 125 год з дня нараджэння Лермантава

Міхаіл Юр'евіч Лермантаў, геніяльны рускі паэт, нарадзіўся ў Маскве 15 верасня 1814 г. Ён выхоўваўся ў сваёй бабулькі, таму што маці яго рана памерла. У 14 год Лермантаў паступіў вучыцца ў маскоўскі пансіён. У гэты час ён пачаў пісаць свае першыя вершы.

У 1832 г., пасля двухгадовай вучобы ў маскоўскім універсітэце Лермантаў паступіў у школу гвардзейскіх юнкераў (гэта такая вайсковая школа). Першы друкаваны твор Лермантава—паэма „Хаджы Абрэк" з'явіўся ў 1835 г.

У 1837 г. Лермантаў напісаў геніяльны верш „На смерць паэта", дзякуючы якому становіцца вядомым пісьменнікам. За гэты верш царскі ўрад арыштоўвае паэта і высылае яго на Каўказ.

У 1838 г. яму было дазволена вярнуцца ў Пецербург. У 1840 г. вышаў першы зборнік яго вершаў і раман „Герой нашага часу". У тым-жа годзе Лермантава зноў выслалі на Каўказ.

Царскі ўрад увесь час травіў паэта і ў выніку гэтага Лермантаў быў забіт афіцэрам Мартынавым 15 ліпеня 1841 г.

Творчасць Лермантава была прасякнута пратэстам супроць царскага ўрада і прыгонніцтва.

## 50 год з дня смерці Чэрнышэўскага

Нікалай Гаўрылавіч Чэрнышэўскі—вялікі рускі пісьменнік і рэволюцыянер—нарадзіўся ў 1828 г. Ён вучыўся ў Саратаве, затым паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт у Пецербургу. Па сканчэнню універсітэта Чэрнышэўскі вяртаецца ў Саратаў, дзе працуе настаўнікам.

У 1854 г. ён пераехаў у Пецербург. Тут шырока разгортваецца яго навуковая і літаратурная праца. Чэрнышэўскі працуе ў адным з самых лепшых літаратурных журналаў—„Современнике".

Карл Маркс і Владзімір Ільіч Ленін высока цанілі Чэрнышэўскага. Чэрнышэўскі з'яўляецца аўтарам выдатнага рэволюцыйнага рамана „Што рабіць?"

У 1864 г. Чэрнышэўскі быў прыгаворан царскім урадам к сямі гадам катаргі. Яго адправілі ў Сібір. Царскі ўрад так баяўся Чэрнышэўскага, што не выпусціў яго пасля адбыцця кары.

У 1883 г. Чэрнышэўскаму ўдалося выклапатаць сабе аслабаненне. Вярнуўшыся з Сібіры, ён жыў у Астрахані, а затым пераехаў жыць у Саратаў.

Памёр Н. Г. Чэрнышэўскі ў кастрычніку ў 1889 г.

## ГУЛЬНЯ

Граюць 6 чалавек. Кожны ставіць свой аловак на чорную кропку і бяжыць па дарожцы. Карцінка ў канцы шляху пакажа табе, хто ты.




## ЗРАБІ САМ

### ЛЯЛЕЧКА З ДРОТУ

Вазьмі два кавалачкі мяккага, не тоўстага дроту, адзін карацейшы, другі даўжэйшы. Злучы іх разам, зрабі пецельку і закруці яе, як паказана на рысунку.

З кароткага дроту зрабі ручкі, а з доўгага—тулава і ножкі.

Прыгатуй масу з вадкага сталярнага клею і крэйды (можна зубны парашок). Маса павінна быць густой, як замазка. Скатай з гэтай масы шарык, надзень яго на пецельку—гэта галава; на ручкі надзень ляпёшкі маленькія, на ногі большыя.

Пастаў ляльку на ножкі і дай ёй абсохнуць.

Цяпер размалюй твар, прыклей валасы і адзень ляльку ў сарафанчык. Узоры на рубашцы і спадніцы можна зрабіць акварэльнай фарбай.



Галоўку, ручкі і ножкі можна таксама зрабіць з светлай гліны або замазкі.

Ляльку павесь на ёлку.

Добрыя цацкі на ёлку можна зрабіць з яечных шкарлупак.

Каб захаваць шкарлупку цэлай, трэба зрабіць дзве маленькія дзірачкі, на пятцы і на наску. У дзірачку на пятцы дуйце, а з другога боку падстаўце сподачак, куды выцячэ змесціва яйка.



## ЗРАБІ САМ

З тонкай каляровай паперы, лепш папяроснай, выраж квадрат і складзі яго па пунктырных лініях, як паказана на рысунках №№ 1, 2, 3.

Надрэж, як паказана на рысунку № 5, і разгарні.

На дно атрыманага кошычка пакладзі арэх ці цукерку, прадзень істужачку і вешай на ёлку.



ЦАНА 30 кап.



# ПАДРЫХТОЎКА ДА ЗІМЫ

Рысункі МАЛЕВІЧА



На пярыне цёплай спаць
Хоча вожык колкі;—
Распачаў на пух мяняць
Вострыя іголкі.




Усе на поўдзень адлятаюць,
Як завяла лета;
Толькі пеўня не пускаюць:
— Нельга без білета.



Надыход зімы ён чуе,—
Узяў лапату ў лапы
Ды бярлогу рамантуе
Мішка касалапы



У ваверкі-гаспадыні
Клопату па вушы:
Пражыць зерняткі ад дыні
ды грыбы, бач, сушыць.



Бач абед гатуе ласы
(Певень—мяса міска),
І зімовую, тым часам,
Лапіць футру ліска.



Воўк—бандыт даўно вядомы—
Усім звярам на згубу,
На прагаліне ля дому
Вострыць іклы, зубы.



Рэдактар А. БЯРОЗКІН Афармленне М. СВЯЦКАГА Адрас рэдакцыі: МІНСК, ДОМ ДРУКУ.
Друкарня імя Сталіна, Мінск. 20.000 экз. Зак. № 1165. 2½ друк. арк. Уп. Галоўліта БССР № 717